

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 24 (254) — Нядзеля 12 чэрвеня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Савецкае паломніцтва да Ціты

На працягу апошніх двух тыдняў заходняя прэса найбольш зьвяртала ўвагі на паездку ўладароў Савецкага Саюзу на чале з Булганінам, Хрушчовам і Мікаянам у Белград да Ціты. Гэты выпадак быў цікавы ня толькі з гледзішча на ягонае палітычнае значэньне, — хаця й з гэтага гледзішча можа ён мець не малыя вынікі — колькі з гледзішча на ягоную несамавітасьць, на якую могуць здабыцца толькі Саветы. Бо калі ў 1948 годзе Югаславія парвала з камінформам і тым самым выйшла з пад апекі Савецкага Саюзу, ейны дыктатар Ціта на цэлы рад гадоў стаўся прадметам найбольш злоснай лаянкі з боку Савецкага Саюзу. Такія эпітэты, як «агент англаамэрыканскага капіталізму», «заправадзец фашызму» і шмат падобных яшчэ ня так даўно сыпаліся пад ягоным адрасам.

Аж тут несьпадзявана ні ён, дыктатар маленькай дзяржавы, паехаў на паклон у Маскву, але сам шэф савецкага ўраду Булганін і сам шэф камуністычнай партыі Савецкага Саюзу Хрушчоў пайшлі да яго на паломніцтва. Гэта ў сучаснай гісторыі бяспрэцэдэнтны выпадак, які толькі ў некаторай меры можа нагадваць іншы факт, калі ў 1939 годзе Сталін, заключаючы пакт Молатаў—Рыбэнтроп, стаўся прыяцелем Гітлера, найбольш ненавіснага свайго ранейшага ворага.

Але яшчэ больш характэрным і вымоўным было тое, што савецкая дэлегацыя ў Белградзе трымала сябе ў ролі віноўнікаў і ў многім пайшла на вялікія ўступкі, тады калі Ціта быў больш вымагальным і станоўчым.

Ужо ў першай сваей прамове, сказанай на лётнішчы ў Белградзе, Хрушчоў біўся ў грудзі з каяньнем, што разрыў зь Цітам у 1948 годзе быў справакаваны ворагамі народу, Бэрыям і Абакумавам, якія потым былі здэмаскаваныя й расстрэленыя. Пры гэтым ні разу ня ўспомніў аб Сталіне, ведаючы, што фактычным віноўнікам разрыву быў ня Бэрыя, Абакумаў ці хто-небудзь іншы, але якраз Сталін. На прамову, у якой ён заклікаў да ідэялягічнай салідарнасьці дзьвюх дзяржаваў, Ціта не адказаў зусім.

Пасьля заканчэньня тыднёвых гутарак і банкетаў, быў выдадзены супольны ўрадавы камунікат. На падставе ягонае аналізы заходнія абсэрватары падсумоўваюць наступныя сукцэсы Ціты:

1. Хаця шэфам савецкай дэлегацыі быў Хрушчоў, шэф партыі, але супольную палітычную дэклярацыю падпісаў Булганін, шэф ураду. Саветы моцна намагаліся весьці гутаркі, як між дзьвюма партыямі, і тады дэклярацыю мусіў бы падпісаць Хрушчоў. Аднак Ціта дамогся на Саветах, што гутаркі вяліся між дзьвюмя дзяржавамі, падчыркваючы гэтым, што камунізм югаслявянскі ня мае нічога супольнага з камунізмам савецкім.

2. Ціта дамогся ад савецкай дэлегацыі згоды на сьцьверджаньне, што «палітыка вайсковых блёкаў» павялічвае міжнароднае напружаньне. Саветы зганілі вайсковыя блёкі ў множным ліку, гэта значыць, і свой собскі блёк, які нядаўна быў афіцыяльна заключаны ў Варшаве.

3. У дэклярацыі гаворыцца, што «справа нутранай арганізацыі, розных сацыяльных сыстэмаў і розных формаў сацыялістычнага разьвіцьця зьяўляюцца выключна справай паасобных краінаў». Такім чынам Масква зыйшла з пазыцыяў 1948 году, якія былі прычынай саваньня Югаславіі з камінформам.

4. Пры гэтым падчыркваецца патрэба «вымены сацыялістычных дасьветчаньняў» між рознымі краінамі, што таксама абазначае вызнаньне Масквой незалежнасьці й адменнасьці югаслявянскіх мэтадаў.

5. У камунікаце не ўспамінаецца аб супрацоўніцтве між абедзьвюма партыямі ані аб павароце Югаславіі да Камінформу.

6. У пасярэдняй хворме Саветы забавязваюцца зрэкампэнсаваць шкоды, нанесеныя Югаславіі з прычыны ейнае гаспадарскае блякады.

7. Саветы забавязаліся рэпатрыяваць Югаславян, якія былі прымусова трыманыя на савецкай тэрыторыі.

Савецкія сукцэсы з канфэрэнцыі падчыркваюцца наступныя:

1. Югаславія ўзноў падтрымала прэтэнсіі камуністычнага Кітаю да Фармозы й выказалася за прызнаньнем яму месца ў Задзіночаных Нацыях.

2. Югаславія ў вагульнай форме падтрымала савецкі праект пакту калектыўнай бясьпечнасьці ў Эўропе.

3. Югаславія выказалася за савецкім праектам забароны атамнага аружжа.

4. Паза ўспомненымі агульнымі, адзіным канкрэтным савецкім сукцэсам зьяўляецца зьліквідаваньне канфлікту зь Югаславіяй і аднаўленьне зь ёю міждзяржаўнага супрацоўніцтва.

Падсумоўваючы ўсе сукцэсы й няўдачы абодвых бакоў, заходняя прэса робіць выпад, што Ціта выйшаў пераможнікам, што ня ён, але Масква пайшла на далёка йдучыя ўступкі і што гэта зьяўляецца таксама сукцэсам і Захаду.

Калі ацэньваць справу зь сяньняшняга гледзішча, дык так. Але… Але няведама, што пакажа будучыня. Ведама тое, што Масква вельмі добра разумела, што ейная пазыцыя, занятая ў Белградзе, як і ўспомненыя мамэнты, што б'юць па ейнаму прэсьціжу, ня ёсьць для яе рэчай прыемнай. Аднак, ня гледзячы на гэта, на такую пазыцыю згадзілася. Відаць, падобна як і ў справе аўстрыяцкай, маючы надзею, што зробленая ёю ахвяра аплаціцца з працэнтамі.

На бліжэйшы час белградзкія падзеі будуць мець для Захаду той дрэнны вынік, што Ціта, які ўжо ад некаторага часу ўмела выкарыстоўвае сваё спэцыяльнае палажэньне і манэўруе між Захадам і азіяцкімі нэўтралістымі, цяпер здабыў большую свабоду такіх манэўраў, а найгорш, што манэўраў між Захадам і Савецкім Саюзам.

Заходнія дзяржавы гэтую для сябе небясьпеку добра разумеюць. Бо ня скончылася яшчэ візыта савецкай дэлегацыі ў Белградзе, як ужо на Захадзе было афіцыйна паведамлена, што хутка адбудзецца канфэрэнцыя трох заходніх вялікадзяржаваў зь Югаславіяй у справе вайсковай і гаспадарскай для яе помачы.

Так, Югаславія дорага каштавала Захаду дагэтуль. Цяпер-жа будзе каштаваць яшчэ болей.

(-іч)

# Савецкія дзяржаўныя пазыкі

Кажны год савецкі ўрад выпускае дзяржаўную пазыку. Першая прымусовая пазыка была выпушчана ў 1930 годзе пад назвай «Пяцігодка ў чатыры гады». Згодна ўказаньняў фінансавых органаў, савецкія работнікі і служачыя абавязаны былі падпісацца ня менш, як на 3-4 тыднёвы заработак. Калгасьнікам і аднаасобнікам былі ўстаноўлены іншыя нормы. Пры чым асаблівы націск быў накіраваны на аднаасобнікаў. Ад пазыкі адлічаліся 4 працэнты, якія выдаваліся трымальнікам аблігацыяў у выглядзе выйгрышаў, або працэнтаў — па жаданьню, якое выказвалася пры падпісцы на пазыку. З 1953 году працэнт на аплату выйгрышаў быў зьніжаны да 3.

Пасьля сьмерці Сталіна шмат хто спадзяваўся, што новае калектыўнае камуністычнае кіраўніцтва дасьць палёгкі народу, будуць зьмены ў бок лепшага жыцьця. Насельніцтва марыла аб «новым нэпе». Гэтыя надзеі падтрымліваліся і пэўнымі мерапрыемствамі камуністычнай партыі і савецкай улады. На верасьнёўскім пленуме ЦК камуністычнай партыі ў 1953 годзе досыць адкрыта, ня таячыся, наступнікі Сталіна прызналіся, што сельская гаспадарка апынулася ў надзвычайна цяжкім становішчы. Партыя дала абяцаньне савецкаму народу за 2-3 гады выправіць становішча, крута ўзьняць вытворчасьць у калгасах і саўгасах, значна павялічыць забясьпечанасьць насельніцтва прадуктамі і таварамі шырокага спажываньня. Каб матар'яльна зацікавіць калгасьнікаў, былі павялічаны нарыхтоўчыя і закупачныя цэны на прадукты і сыравіну сельскай гаспадаркі. Гэты кірунак «палёгкаў» адбіўся і на выпуску дзяржаўнай пазыкі ў 1953 годзе. Пазыка была выпушчана ў 1953 годзе толькі ў памеры 17,3 мільярдаў рублёў. І гэта ў той час, калі ў 1952 годзе яна дасягнула нябывалай лічбы — у колькасьці 36,3 мільярдаў рублёў. Такім чынам працоўным Савецкага Саюзу было дазволена пакінуць у сябе 19 мільярдаў рублёў з сваіх заработкаў. У 1954 годзе пазыка была яшчэ паменшана і складалася з 15,9 мільярдаў рублёў.

Аднак ужо ў студзені гэтага году на пленуме ЦК камуністычнай партыі Хрушчоў прымушаны быў прызнаць, што «некаторыя партыйныя арганізацыі да гэтага часу не зразумелі ўсёй глыбіні нашага адставаньня з жывёлагадоўляй і нездавальняюча ажыцьцяўляюць пастановы верасьнёўскага пленуму ЦК. Інакш чым растлумачыць, што ня гледзячы на сур'ёзнае папярэджаньне з боку ЦК, у шэрагу рэспублікаў, краёў і вобласьцяў у мінулым годзе колькасьць жывёлы і яго прадукцыйнасьць ня толькі не павялічылася, а навет паменьшылася?» Круты ўздым сельскай гаспадаркі і лёгкай прамысловасьці ня ўдаўся. Камуністычнае калектыўнае кіраўніцтва свайго абяцаньня аб палепшаньні жыцьця народу ня выканала. На студзеньскім пленуме ЦК было абвешчана, што ўжо створаны ўмовы да крутога ўздыму сельскай гаспадаркі, а самы дастатак у прадуктах і таварах наступіць праз 5-6 гадоў. Адным словам гульня ў «палёгкі» і ўзьняцьце набрабыту людзей раптам абарвалася. На гэтым пленуме Хрушчоў сказаў: «Галоўнай задачаю, выкананьню якой партыя аддае ўсе свае сілы, было і застаецца ўмацаваньне магутнасьці савецкай дзяржавы, а значыць і паскоранае разьвіцьцё цяжкай індустрыі, якая складае трывалую падставу ўсей народнай гаспадаркі і няпераможную абароназдольнасьць краіны, крыніцу няўхільнага ўздыму дабрабыту народу». Пасьля кароткай перадышкі наступіў круты паварот да старой сталінскай палітыкі.

У гэтым годзе аб выпуску дзяржаўнай пазыкі насельніцтва было паведамлена 12 травеня. Пазыка выпуску 1955 году складае 32 мільярды рублёў. У параўнаньні зь мінулым годам павялічана больш чым у два разы. Міністар фінансаў СССР Зьвераў растлумачыў: «Падпіска на пазыку сярод рабочых, служачых, вайскоўцаў, якія атрымліваюць заработак да 700 рублёў у месяц, праводзіцца ў памерах іх трохтыднёвага заработку, а тыя, хто зарабляе больш 700 рублёў — у памеры месячнага заработку». Маючыя прыбытак больш 2 000 рублёў могуць падпісацца і на большую суму. Гаворачы аб мэтах новай пазыкі, Зьвераў адзначыў, што выпуск пазыкі «зьвязаны з ажыцьцяўленьнем пастаўленых камуністычнай партыяй і савецкім урадам задач па далейшаму разьвіцьцю народнай гаспадаркі і ўмацаваньню абароназдольнасьці нашай краіны». Скарочана на адну траціну і сума выйгрышаў, бо на гэтую мэту, замест 3 працэнтаў ад пазыкі, выдзяляюцца толькі 2%.

Ужо 20 травеня г. г. у газэтах было зьмешчана паведамленьне міністэрства фінансаў СССР, што дзяржаўная пазыка выпуску 1955 году поўнасьцю разьмешчана і падпіска на пазыку прыпынена. Такім чынам пазыка ў Савецкім Саюзе ня рэалізуецца, а «разьмяшчаецца», пры тым прымусова. У час «разьмяшчэньня» пазыкі камуністычная прэса зьмяшчала прапагандовыя зацемкі пад тэндэнцыйнымі крыклівымі назовамі: «Вялікі посьпех новай пазыкі», «Няхай будзе яшчэ прыгажэйшым наша жыцьцё» і іншыя. У няшчырых зацемках няшчыра паведамлялася аб «захапленьні» новай пазыкай, аб вялікай «радасьці» працоўных, зь якою яны сьпяшаліся падпісацца на пазыку. Так вучоныя Акадэміі Навук БССР праз паўгадзіны падпісаліся на 146,3% месячнага заработку. На параплаве «Янка Купала», што плавае па Прыпяці, каманда падпісалася на пазыку праз 15 хвілінаў.

Пазыка выпуску 1955 году сьветчыць, што час паслабленьняў, абяцанак падняцьця дабрабыту прайшоў. Адноўлена старая палітыка жорсткага націску. Калектыўнае кіраўніцтва, агледзеўшыся, што дыктатуры не пагражае нутраная рэвалюцыя, вярнулася да сталінскіх мэтадаў.

Дадатква адабраныя ад насельніцтва 17 мільярдаў рублёў у параўнаньні зь мінулым годам маюць і другую мэту. Пры адсутнасьці на савецкім рынку дастатковай колькасьці тавараў значна павялічаная пазыка ў гэтым годзе ёсьць спосабам утрымаць ад зьніжэньня кошту абясцэненага савецкага рубля і значнай крыніцай прыбытковай часткі бюджэту.

**В. Будзімер**

# Менскія спэкулянты

Хто быў хоць крыху знаёмы з савецкім жыцьцём на Беларусі, той ведае, што, побач так званага блату, спэкуляцыя ў Саветах зьяўляецца адным з найважнейшых спосабаў забесьпячэньня ў меру магчымасьцяў насельніцтва патрэбнымі таварамі ды адначасна аднэй з найхарактэрных рысаў савецкага эканамічнага рэжыму наагул. Рыса гэтая й цяпер, пасьля дзесяці год «мірнага» адбудоўваньня Беларусі ды «крутога» забясьпечваньня ейнага насельніцтва «таварамі шырокага ўжытку», ні кропелькі ня страціла свае выразнасьці й актуальнасьці. У савецкай Беларусі й надалей вычуваецца войстры голад на ўсё. Бо калі спэкуляцыя йдзе коштам «усяго, што трапляецца пад руку», як аб гэтым мы даведаемся ніжэй, — значыць, на гэтае «ўсё» насельніцтва церпіць нястачу. У «Зьвязьдзе» з 21. 5. 55 «начальнік сьледчага аддзелу пракуратуры места Менску» зьмясьціў быў свае «заметкі сьледчага» пад загалоўкам «Дармаеды». З гэтых «заметак» мы даведваемся аб вельмі істотных рэчах зь сяньняшняга савецкага жыцьця, якія пераконваюць нас яшчэ раз, што, ня гледзячы ні на «крутыя ўздымы», ні на «калектыўныя кіраўніцтвы», жыцьцё на Беларусі ў ягонай штодзённай мітусьні ў нічым не зьмянілася дый надзеі на зьмену ніякае ня відаць. Ніжэй падаем колькі цікавых фрагмэнтаў з сучаснае спэкуляцыйнае практыкі на Беларусі.

«Буржуазны лад, — чытаем мы ў «Зьвязьдзе», — пакінуў нам цяжкую спадчыну — перажыткі капіталізму ў сьвядомасьці паасобных людзей. Гэтыя перажыткі вельмі жывучыя… Аднэй з «радзімых плям» капіталізму зьяўляецца спэкуляцыя. Гэта надзвычай небясьпечны перажытак старога.

«У выніку няспыннага паляпшэньня матар'яльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню савецкіх людзей павялічваецца попыт насельніцтва на прадукты харчаваньня і прамысловыя тавары, асабліва на такія, як швэйныя машыны, радыёапараты, шарсьцяныя тканіны і іншыя. У сувязі з гэтым адчуваюцца часовыя цяжкасьці ў забесьпячэньні насельніцтва некаторымі прамысловымі таварамі (вось вам і высьненьне прычыны спэкуляцыі: яе, аказваецца, родзіць «дабрабыт і культурны ўзровень савецкіх людзей»! — Р. Л.). Гэтыя часовыя цяжкасьці, часам зьвязаныя зь недахопамі ў рабоце нашых гандлёвых арганізацыяў, спэкулятыўныя элемэнты выкарыстоўваюць для атрыманьня непрацоўных даходаў. Спэкулянты набываюць тавары і перапродваюць іх насельніцтву па павышаных цэнах.

«Падам некалькі прыкладаў. Д. Дыханава ўжо аднойчы судзілі за спэкуляцыю. Але гэта не паслужыла яму лекцыяй. Асталяваўшыся пасьля адбыцьця пакараньня ў Менску, ён зноў заняўся спэкуляцыяй. Маючы адпаведнае «дасьветчаньне», Дыханаў разгарнуў кіпучую «дзейнасьць». Толькі ў вапошні час Дыханаў купіў пяць радыёапаратаў і тры швэйныя машыны, якія перапрадаў прыежджым у Менск. За кажны радыёапарат ён атрымліваў 250—300 рублёў «прыбытку», а за швэйную машыну — у два разы больш.

Спэкулянт выкрыты і асуджаны да васьмі гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці.

«Нейкі М. Штэйнгарт скупляў і перапрадаваў усё, што траплялася пад руку: радыёапараты, валёнкі,, швэйныя машыны, розныя тканіны, абутак. Гэты прайдзісьвет вызначаўся выключнай «прадпрыймальнасьцяй». Адным махам ён набываў у фірмовым магазыне на вуліцы Няміга дзьве-тры швэйныя машыны і стаўся настолькі нахабным, што тут-жа, ля магазыну, перапрадаваў толькішто купленыя рэчы, кладучы ў кішэню вялікія барышы.

«Нядаўна нам давялося мець справу з заўзятым спэкулянтам У. Стасевічам. Стасевіча добра ведаюць работнікі Менскага сельпо. Ён працаваў там нарыхтоўшчыкам. Карыстаючыся бескантрольнасьцяй, ён браў буйныя падсправаздачныя сумы грошай нібыта на нарыхтоўку сельскагаспадарчых прадуктаў. Гэтыя сродкі Стасевіч выкарыстоўваў для сваіх спэкуляцыйных апэрацыяў. Ён купляў у калгасах пад выглядам нарыхтовак пшаніцу й яблыкі, а потым перапрадаваў іх на рынках гораду.

«У кастрычніку мінулага году Стасевіч атрымаў 16 000 рублёў на нарыхтоўку сельскагаспадарчых прадуктаў. Разявякі зь сельпо чакалі на атрыманьне прадуктаў, а тым часам Стасевіч за гэтыя грошы купіў тры каровы, забіў іх і прадаў мяса ў магазыны горкаапгандлю (г. зн., гарадзкога каапэратыўнага гандлю — Р. Л.).

«Спэкулянты часта дзейнічаюць заадно, падтрымліваюць адзін другога. Яны ўсялякімі шляхамі даведваюцца, дзе прадаюцца найбольш дэфіцытныя тавары, і накіроўваюцца туды «касякамі». Такую зьяву нярэдка можна заўважыць у Менскім унівэрмагу… Тут яны (спэкулянты — Р. Л.) стаяць ля дзьвярэй задоўга до адкрыцьця ўнівэрмагу і, калі магазын адкрываецца, сьпяшаюцца першымі заняць чаргу ля шмат якіх прылаўкаў.

«Ёсьць у нас і так званыя «гастралюючыя» спэкулянты, якія разьяжджаюць па розных местах, набываюць там дэфіцытныя тавары і перапрадаюць іх праз сваіх супольнікаў. У габінэце сьледчага сядзяць затрыманыя органамі міліцыі М. Гардзей і С. Гутнік. Яны сыстэматычна езьдзілі ў Рыгу, дзе куплялі драп, габардзін і іншыя каштоўныя тавары, адпраўляючы іх у Менск паштовымі пасылкамі.

«Некаторыя дзялкі займаюцца ў магазынах перапродажам чэкаў на цукяр, масла, на прамысловыя тавары…

«Трэба сказаць і пра так званы гіпадромны рынак м. Менску. Хто быў на гэтым рынку, той бачыў, што менавіта ён зьяўляецца каналам, па якім спэкулянты сплаўляюць набытыя імі тавары. Тут можна ўбачыць самыя хадавыя тавары, якія напярэдадні былі ў продажы ў ўнівэрмагу або ў іншых магазынах места.

«… Часта даводзіцца наглядаць такую зьяву. Да касы кінотэатру падыходзіць мужчына, стукае ў ваконца. Касір адказвае, што ўсе білеты прададзены. Ля касы ў момант зьяўляецца падлетак і ўпаўголаса прапануе: «Вазьмеце ў мяне, дзядзенька». «Дзядзенька» ўступае ў перамовы з хлопчыкам. Нарэшце гандаль адбыўся. Кажны накіроўваецца сваёй дарогай: «дзядзенка» — у кіно, а хлопчык рэалізоўваць «выручку…»

«Выклікае зьдзіўленьне, што работнікі кінотэатраў, ведаючы, што ў іх пад бокам ідзе людны гандаль білетамі, абыякава глядзяць на дрэнныя ўчынкі падлеткаў.

«Барацьбу із спэкулянтамі й перакупшчыкамі абавязаны весьці органы міліцыі места. Але яны слаба выконваюць гэтае заданьне. Работнікі міліцыі недастаткова кантралююць рынкі, часам нерашуча выкрываюць спэкулянтаў і перакупшчыкаў… Таксама работнікі гарадзкой гандлёвай інспэкцыі ў гэтым кірунку працуюць надзвычай слаба…»

**(Паводля «Зьвязды» з 21. 5. 55, гл. арт. «Дармаеды»)**

# Шляхі беларускіх дзяцей у вапошнюю вайну

Аднойчы ў сяброўскай гутарцы (здаецца ў Лювэне) хтосьці выказаў думку, што ні ў нашай прэсе, ні асобнымі выданьнямі не закранаюцца паасобныя аспэкты нашага нацыянальнага жыцьця ў часе апошняе вайны. Калі-ж часамі гэтыя пытаньні падыймаліся, дык гэта ня было роблена з мэтай рачовага перагляду і дакумантацыі падзеяў, а хутчэй валкавалася адзіная вострая тэма: апраўдаць дзейнасьць тых ці іншых палітычных дзейнікаў ці закляйміць яе. І гэтая тэма адцягвала ўсю ўвагу. А калі навет у сувязі зь ёй пабочна гаварылася ці пісалася аб змаганьні й жыцьці **ўсяе нацыі,** дык усядно яно было разглядана праз прызму якраз вось гэтае вышэй названае тэмы.

Калі мы пацікавімся эміграцыйнай прэсай і літаратурай нашых суседзяў — Украінцаў, Палякаў ці Расейцаў, дык пабачым, што ня было найменшае палітычнае ці грамадзкае падзеі ў іхных краінах у часе апошняе вайны, якая-б не знайшла свайго адлюстраваньня на бачынах. Нейкая нязначная бойка з бальшавіцкім ці нямецкім аддзелам, нейкая тайная сходка моладзі, праца мясцовага актыву ў нейкім глухім мястэчку — усё гэта задакумэнтавана адпаведнымі матарыяламі ці ўспамінамі непасярэдніх сьветкаў ці ўдзельнікаў. У нас-жа, апрача пытаньня дзейнасьці ізноў тых-жа самых палітычных дзейнікаў, мала што рабілася ў гэтым кірунку.

Праўда, былі да гэтага й прычыны ад нас зусім незалежныя. Няпэўная сытуацыя кажнага з нас адразу пасьля вайны ды асабліва ў сувязі з рэпатрыяцыйнымі акцыямі, прымушалі як найменш гаварыць ды ўспамінаць аб мінулым. Людзі, якія ніколі не маглі-б быць пасуджаныя ў нейкай калябарацыі, якія апрача ахвярнай грамадзкай працы нічога больш ня ведалі ў часе вайны, потым баяліся навет прызнацца да гэтае працы. І так праходзілі гады. А разам з гэтым, усё тое, што мы перажывалі, што рабілі, у якіх умовах, для чаго й зь якімі вынікамі — паступова пакрываецца забыцьцём. У выніку можа дайсьці да таго, што будучыя пакаленьні, разглядаючы другую сусьветную вайну й падзеі на Беларусі, нічога больш не пабачаць акрамя «гэройскага змаганьня беларускага народу за савецкую айчыну пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна».

*

**У часе тае самае гутаркі была паданая канкрэтная прапанова пачаць зьбіраць матарыялы й успаміны аб Саюзе Беларускай Моладзі, што згуляў гэтак выдатную ролю ў галіне нацыянальнага ўсьведамленьня й патрыятычнага выхаваньня нашае моладзі. Навет калі няма сёньня пад рукамі ні адпаведных матарыялаў, ні дакумантаў, дык прынамсі ёсьць на эміграцыі ладная колькасьць былых сяброў гэтае арганізацыі, якія сваімі ўспамінамі з працы ў паасобных аддзелах маглі-б у значнай меры** спрычыніцца да дакумэнтаваньня мінулага гэтае арганізацыі. Ня трэба разглядаць гэтага, як пісаньне нейкіх навуковых распраў: найважнейшае — сабраць непасрэднія й жывыя сьветчаньні ды ўражаньні тых асобаў, якія ў гэтай арганізацыі працавалі ці мелі зь ёй якінебудзь сутык. А гэта паслужыць у будучыні цэннай крыніцай, для таго, хто захацеў-бы поўнасьцяй і ўсебакова прастудыяваць гісторыю СБМ.

Мы спадзяемся, што былыя сябры арганізацыі адгукнуцца на наш заклік і пастараюцца прыслаць як свае ўспаміны, так і іншыя матарыялы, якія дапамогуць адлюстраваць цярністыя шляхі беларускае моладзі ў вапошнюю вайну.

*

Аўтар гэтых радкоў у СБМ апынуўся зусім прыпадкова ўжо ў Нямеччыне й працаваў зь беларускімі дзяцьмі ў веку 8—14 гадоў, эвакуаванымі з Усходняй Беларусі й над якімі апеку пераняў СБМ. У сувязі з тым, што ўжо адзінаццаць гадоў прамінула з таго часу, некаторыя прозьвішчы, а таксама даты цяжка сёньня ўспомніць. Прозьвішчы-ж тых кіраўнікоў і наагул сяброў СБМ, аб лёсе якіх сёньня ня ведама, ня будуць зусім падавацца ці толькі ў ініцыялах. Сяброў і сяброўак, СБМ, што прайшлі аналягічны шлях, просіцца зьвярнуць увагу на эвэнтуальныя недакладнасьці, а перадусім, дапоўніць і пашырыць вобраз жыцьця гэтых дзяцей сваімі собскімі ўспамінамі.

**КРЫМІЧАЎ — ДЭССАЎ (Альтэн).**

У Карынцкіх Альпах над ракою Дравай знаходзіцца маленькая мясцовасьць Мальта. Сюды, у вайсковы падрыхтоўчы лягер, 16-га красавіка 1944 году прыбыло першых сто Беларусаў. У ціхай мясцовасьці, адрэзанай ад сьвету горамі, проста ня верылася, што дзесьці праходзяць франты, дымяць пад бомбамі гарады. І толькі падзеі, аб якіх пісалася ў лістох з Бацькаўшчыны, трывожылі штораз больш.

**У чэрвені прыйшоў з Бэрліну загад: адабраць групу (здаецца 15 асобаў) больш здольных хлапцоў і накіраваць у распараджэньне Галоўнага Кіраўніцтва СБМ на Нямеччыну. Даволі няясна гаварылася, што маем займацца й апекавацца нейкімі дзяцьмі. Для нас тады няважна было, што маем рабіць: самае галоўнае — здаралася магчымасьць вырвацца з глухіх гораў на шырокі сьвет. «Бывай мой родны кут і зьвяз...», абяцаньні трымаць пісьмовую лучнасьць — традыцыйнае разьвітаньне гэтных часоў. У Шпітталі сядаем у перапоўнены бэрлінскі экспрэс.**

Першы этап — Крымічаў. Невялікі саксонскі горад. Тут ёсьць лягер СБМ. Усіх цікавіць, як у запраўднасьці такі лягер выглядае. Аказваецца — гэта не баракі, а тыповая нямецкая Turnhalle. Вялізарныя рады павярховых ложкаў. Знаёмімся з СБМ-аўцамі. Ясна, знаходзяцца знаёмыя й ледзь не сваякі. Некаторыя зь іх ужо прабылі ў Нямеччыне каля двух гадоў. Нам, што толькі тры месяцы як пакінулі Беларусь, проста ня верыцца, як столькі часу можна прабыць на чужыне.

Умовы жыцьця й працы СБМ-аўцаў параўнальна лепшыя, чымся іншых работнікаў з Усходу. Дзеля чаго іх ня любяць г. зв. «остаўцы», называючы іх зраднікамі й фашыстымі. Праўда, юнакі ўжо з гэтым звыклі й не зьвяртаюць на гэта ўвагі.

Пераначаваўшы, едзем далей. І тут ужо бачым сьляды сьвежых налётаў. Ня цікава выглядае гэты шырокі сьвет: у горах было спакайней. Наступны этап — Дэссаў, цэнтр самалётных фабрыкаў Юнкэрс. Тут з аднаго боку разьлёгся даволі прыгожы й мала разбураны горад, з другога боку — бясконцая маса вялізарных фабрычных блёкаў і лягерных баракаў з чужынцамі. Сярод гэтых апошніх — шмат Беларусаў.

Крыху воддаль ад іншых знаходзіцца СБМ-аўскі лягер Альтэн, у якім жыве каля 400 юнакоў ад 16-і да 18-і гадоў. Кіруюць імі свае кіраўнікі. Дысцыпліна тут напоўвайсковая. На працу ходзяць строем. У сьвяточныя дні абавязвае СБМ-аўская ўніформа. Працуюць 10—12 гадзін. Наагул-жа атмасфэра тут шмат прыямнейшая, чымся ў Крымічаў, можа таму, што чыстыя баракі выглядаюць куды весялей за панурую Турнгале. Адносіны з «остаўцамі» тут таксама лагаднейшыя, таму што сярод апошніх шмат Беларусаў, якія сябруюць зь юнакамі.

Затрымоўваемся тут на некалькі дзён. Юнакі расказваюць пра жахі налётаў. На шчасьце да гэтага часу іх ня было шмат. Мы-ж яшчэ ня маем уяўленьня як выглядае масавы налёт. І вось першы папераджальны алярм. Мы дзівімся, што ніхто нікуды не хаваецца. Праўда, прайходзіць мінут дваццаць і алярм адклікаецца.

**ЛЯГЕР ЛЕРТЭ**

**Дзесяцём з нас прыходзіць загад ехаць далей, цяпер ужо проста ў той лягер, дзе знаходзяцца эвакуаваныя дзеці. Мінаем Магдэбург. Тут ужо запраўды відаць усю руйнуючую дзейнасьць налётаў. Тое самае ў Браўншвайгу. Але дзівіць нас спраўнасьць руху пасажырскіх цягнікоў у гэтакіх умовах. Не даяжджаючы колькі кілямэтраў да Гановэру, высядаем на даволі вялікай станцыі Лертэ.**

**Нарэшце пабачылі мы гэтых дзяцей. Больш жудасны малюнак цяжка сабе ўявіць. У лягеры абнесеным дротам, некалькі панурых баракаў, а ў іх на голых нарах брудныя, ў лахмоцьцях, заплаканыя дзеці ў веку ад 8 да 14 гадоў. Абыйшлі мы ўсе баракі. Усюды аднолькавы малюнак:** дзяўчаты групамі плачуць, хлопцы лаюцца міжсобку. Аказваецца тысячу гэтых дзяцей прывезьлі некалькі дзён таму проста зь Беларусі. Немец, часовы кіраўнік лягеру, абсалютна ня ведае, што гэта за дзеці й што зь імі рабіць. Просіць, каб мы разыйшліся па бараках і паспрабавалі ўгаварыць іх больш ня плакаць. Прабуем, як можам — вынікаў ніякіх. Ды як тут угаварыць, калі ў пэўных момантах гэты плач ахоплівае даслоўна ўсе баракі й чуецца адзін суцэльны бесьперапынны лямант і, здаецца, што гэта ня дзеці, а нейкая тайная вялізарная моц галосіць. Калі нарэшце пад вечар лягер крыху супакоіўся, мы стараліся ўгаварваць, што цяпер будзе лепш, што пераедзем у другое мейсца. Дзяўчаткі на ўсялякія намовы й пытаньні проста маўчалі ці зьвярталіся з адзіным «дзядзенька, завязеце нас дадому». І што на гэта адкажаш? Што ім паабяцаеш? Вышукаўшы некалькі старэйшых і спакайнейшых хлапцоў, удалося нарэшце даведацца, што бальшыня іх з Магілёўшчыны й Віцебшчыны, хоць таксама шмат і з Смаленшчыны. Калі падыходзіў савецкі фронт, Немцы іх эвакуавалі, пакідаючы бацькоў.

Калі ім выясьнілі, што мы таксама зь Беларусі, што цяпер будзем апекавацца імі, што дастанем вопратку й лепшую ежу, лягер значна супакоіўся. Але затое цяпер дзе ні пакажыся, дык адусюль пытаньні: «дзядзька, праўда, што Вы ня Немцы?». На гэтае пытаньне лёгка было адказваць, але затое што адкажаш на пытаньне: «А калі паедзем дадому?».

Вечарам зьбіраемся ў сваім бараку й дзелімся ўражаньнямі. Ува ўсіх прыгнечаны настрой. Некаторыя ўжо шкадуюць, што згадзіліся на гэтую працу. Сябра М. С. заяўляе адкрыта, што калі-б ведаў гэта, хутчэй-бы згадзіўся пайсьці на фронт. Гэтыя разважаньні перарывае папераджальны алярм. У нейкім бараку падымаецца йзноў плач. Хаця-б ён толькі не перакінуўся й на іншыя баракі. Потым алярм адклікаецца й лягер паступова заціхае.

Надыйшла раніца. Дзеці, паведамленыя яшчэ ўчора, што маем сёньня ехаць у іншае мейсца, даўно ўжо ня сьпяць. Мы-ж маем іх падзяліць на дзесяць групаў па сто асобаў і атрымаўшы дзённы **правіянт ісьці на станцыю. Тымчасам ізноў алярм. І хутка пагоднае блакітнае неба зацягваецца дымнымі палосамі. Эскадра за эскадрай лятуць самалёты. У лягеры няма ня толькі бункераў, але навет самых прымітыўных равоў. Дзяцей цяжка ўтрымаць у бараках, асабліва хлапцоў. Збоку, пад Гановэрам, пачынае біць артылерыя й ім здаецца, што гэта ўжо падаюць бомбы. Неба пакрываецца** чорнымі дымкамі. Мінае поўгадзіны, гадзіна. Эскадры за эскадрамі лятуць у розных кірунках.

Нарэшце каля дзесятае гадзіны адкліканьне алярму. Пачынаем дзяліць гэтую дзіцячую масу на групы. Яны баяцца, што іх разьдзеляць і павязуць у розных кірунках. Прыходзіцца йзноў намаўляць і пераконваць. Кажны з нас стараецца як можа навесьці парадак у сваёй групе. Пасьля гэтага калёна за калёнай падыходзіць да таварнае станцыі, дзе на запасных рэйках стаяць ужо вагоны. Пабачыўшы цягнік, пачаліся йзноў пытаньні «куды паедзем?». І калі мы сказалі, ня хлусіўшы, што едзем прыблізна на 200 кілямэтраў на ўсход, гэта значыць у кірунку дому, дык гэтая вестка адразу абляцела ўсе вагоны. Павесялелі твары й там-сям можна было ўжо пачуць і сьмех. Будучы больш за паўтары тысячы кілямэтраў ад дому, гэтыя дзеці цешыліся двумя соткамі кілямэтраў бліжэй да сваіх! Зьдзівіла іх таксама й тое, што апрача нас дзесяцёх, нікога больш няма й вагоны не замыкаюцца. І калі абыходзячы вагоны перад ад'ездам папераджалася ня выхіляцца зашмат, на затрымках не аддаляцца, у часе алярмаў слухаць загадаў, дык адусюль чулася ветлівае «так, дзядзенька, добра». І тут мы пераканаліся, што ўжо ня так страшна будзе працаваць з гэтымі дзяцьмі, як нам яшчэ здавалася ўчора. Дзіўным толькі гучэў, бяз прызвычаеньня, гэты новы зварот «дзядзенька» ці «дзядзька», зь якім дзеці да нас зьвярталіся.

У пасьляабеднія гадзіны прыбываем у Браўншвайг. Цягнік затрымоўваецца на неакрэсьлены час. Дзеці просяць вады. Напаўняем усякую пасуду, што маецца пад рукамі. Да цягніка падыходзяць нейкія дзьве жанчыны й гутараць зь дзяцьмі. Калі я праходжу каля вагону, адна зь іх із злосьцяй кідае мне: «Ты, фашысцкая сволач». З вагону чуюцца галасы: «Цёця, гэта ня Немец». Жанчыны адыходзяць. У далейшым падобныя сцэны будуць нашымі неадлучнымі спадарожнікамі.

Пачынаецца алярм, а мы ўсё яшчэ стаім у масе іншых транспартаў на вялізарнай станцыі. Падбягае колькі чыгуначнікаў і пытаюцца, што мы думаем рабіць зь дзяцьмі, бо да сховішчаў адгэтуль даволі далёка. Што мы маглі рабіць з такой масай, ды першы раз апынуўшыся ў такой сытуацыі? Машыністы, які хацеў адцягнуць транспарт далей ад станцыі, ня мог нічога зрабіць без дазволу. Прышлося чакаць у вагонах. Сэкунды здаваліся мінутамі, мінуты гадзінамі. Якой цудоўнай мэлёдыяй здаліся гукі адкліканьня алярму! Нейкі стары чыгуначнік падыйшоў да вагону й яшчэ з узрушаньнем гаварыў: «Дзякаваць Богу, што так скончылася, такая сытуацыя й столькі дзяцей, дзякаваць Богу».

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

Г. А. Такаеу

# Аб Бэрыі, Керэнскім, рэвалюцыі й контррэвалюцыі

**(Працяг)**

**7. Аб «уцечцы» Бэрыі ў Швэцыю й іншыя нябыліцы**

Далей Керэнскі паведамляе, што згодна матарыялаў, што яму дастаўлялі «на працягу 18 месяцаў», згодна паведамленьня Маглакелідзэ і «жаролаў» Мюнхэну, Бэрыя не арыштаваны, а ўцёк **і цяпер перабывае ў дарозе ў Швэцыю, адкуль мае намер пераехаць на Каўказ, каб арганізаваць вялікую контррэвалюцыю з мэтаю збройнага змаганьня Каўказу супраць маскоўскага ўраду...** О Цыцэроне!

Я ня ведаю, дзе і як перабываў Бэрыя перад арыштам (чытач напэўна не забыў яшчэ і аб неразумнай вэрсіі яго арышту, якую пусьціў у свой час ведамы гэрой цыяністых цыгарэт, што не забыўся дадаць, што Бэрыя меў стады, гарэмы й вялікую колькасьць палацаў). Ня ведаю, дзе і пры чыёй дапамозе схапілі яго малойчыкі Серава. Але няма сумлеву ў вадным: гэта сталася ў сярэдзіне СССР, ні ў якім выпадку паза СССР, навет не на граніцы СССР. Гэта нязвычайна важная дэталь. Бэрыя, Мяркулаў, Дэканозаў або яшчэ хто-небудзь іншы зь іхных супрацоўнікаў навет ня думаў аб жаночай спадніцы для праяўленьня вонкавага гэройства ў уцечцы заграніцу.

Аднак, паверым у міт Маглакелідзэ й Керэнскаму. Прыпусьцім, што Бэрыя ўзапраўды меў намер уцячы на Захад, да «капіталістых», але КГБ да гэтага часу ня ведаў пра нічога гэтага, як, у такім выпадку, трэба было-б кваліфікаваць заяву Керэнскага? Прыпусьцім, што Бэрыя не расстрэлены, а перахоўваецца, але КГБ ня ведае, ці ў СССР, ці паза СССР, як, у такім выпадку, трэба было-б кваліфікаваць паведамленьне нашага дзяржаўнага дзеяча? Прыпусьцім, што Бэрыя і Ко былі расстрэленыя проста за намаганьне палацовага перавароту, без абвінавачваньня іх у сувязях з рознымі «жароламі», як, у такім выпадку, належыла-б кваліфікаваць паводзіны былага адваката?

Паўторым яшчэ раз: трэба палажыць канец гэтай сваволі, калі мы ўзапраўды ня сталіся нявольнікамі вульгарнага лёзунгу: **чым горш — тым лепш, чым болей шкоды — тым больш карысьці.**

**8. Небясьпечны шлях**

Неасьцярожны Керэнскі можа запярэчыць, што аб уцечцы Бэрыі на Захад яшчэ да яго пісала шмат газэт. Гэта мне, пэўная рэч, ведама. Але дзе гарантыі, што інсцэнізавальнікам гэтых «сэнсацыяў» ня была савецкая разьведка? Дзе гарантыя, што ў гэтым ня бралі ўдзелу розныя правакатары й рэзыдэнты? І хіба-ж нічога іншага ў прэсе не паяўлялася? А ці ня прыходзілася аўтару «новай тэорыі» чытаць апублікаванай на некалькіх мовах заявы Такаева ў верасьні 1953 году аб тым, што размовы пра ўцёкі Бэрыі да Мэк Кэрты, у Аргентыну, Гішпанію й Швэцыю зьяўляюцца дакладна схвабрыкаванай правакацыяй малойчыкаў Серава? Пакінем пэрсанальныя прыязьні й няпрыязьні, — будзем гаварыць сур'ёзна: паводля якіх маральных крытэрыяў была ігнараваная гэтая перасьцярога й падхопленыя сэнсацыі розных Маглакелідзэ? Але гэта не галоўнае. Галоўнае ў тым, што Керэнскі сьпісаў шмат паперы, выграціў ня мала чарніла, павучаючы іншых у тым, як трэба інфармаваць чужынцаў у «расейскім пытаньні», а сам у цяжкую хвіліну стаў на шлях шкодных інсынуацыяў, падхапіў вэрсію правакатара й стаў распаўсюджваць, як «матарыял для гісторыкаў». Што-ж, гэта ёсьць інфармаваньне чужынцаў? Ці-ж так і мы павінны паясьняць «расейскае пытаньне»?

Нажаль, на гэты небясьпечны шлях ступіў не адзін Керэнскі. Перада мною ляжыць доўгі ліст другога «выдатнага эмігранта», які таксама намагаўся давесьці, што паводля ягонага пераканаьня Бэрыя перабывае дзесьці ў Эўропе і разам з Ангельцамі арганізуе эміграцкую вызвольную армію, што ў гэтую армію прыймаюцца толькі Каўказцы й Украінцы, што мова йдзе аб арганізацыі **антырасейскага** збройнага змаганьня, што таму я, «як Каўказец», мушу ўплынуць на яго, пераканаць яго стварыць армію агульна-саюзную. І гэтак далей. Можна сабе ўявіць, што гаварыў гэты чалавек у сваім акружэньні. Бязь цяжкасьці можна зразумець, як такія людзі «інфармуюць» чужынцаў. Было гэта падобным на ведамае лёгкадумнае паведамленьне «Ісі Пары» аб тым, што Такаеў з Ангельшчыны камандуе 300.000-ай украінскай вызвольнай арміяй у УССР.

Выбачце за брутальнае слоўца: чорт зь імі, з Бэрыям ці Такаевам, але трэба-ж зразумець, што ідыёцкія выхадкі прыносяць канкрэтнае зло **запраўднаму** змаганьню за вызваленьне народаў СССР. Трэба-ж зразумець, што інсынуацыі аб уцёках Бэрыі да Мэк Кэрты, абавязкава да Мэк Кэрты, у якойсьці меры дыскрэдытуюць не аднаго Бэрыю, а многіх іншых, ня толькі ягоную змову, але самую ідэю руху супраціву. Хто ў гэтым зацікаўлены?

**9. Керэнскі йдзе занадта далёка**

Наш «тэарэтык» паведаміў сьвет, што Бэрыя мае намер із Швэцыі пераехаць на Каўказ, каб арганізаваць збройнае змаганьне каўкаскага раёну супраць **маскоўскага ўраду.** Я ня веру ў магчымасьць існаваньня сур'ёзнага чалавека, які мог-бы паверыць у гэтае лёгкадумнае мроеньне. Але грубое фармуляваньне родзіць тройчы грубшыя лягічныя высновы. Адзін каўкаскі эмігрант бесцеромна сказаў мне на днях: «Як-бы там ня было, а Бэрыя таксама быў Каўкасцам і, падобна ўсім Каўкасцам, ненавідзеў Расейцаў, таму, быццам, намагаўся арганізаваць новы газзават **супраць Расейцаў.**

Я пратэставаў і пратэстую супраць гэтых правакацыйных інсынуацыяў. Народы Каўказу ня былі, ня ёсьць і ніколі ня будуць тупымі ненавісьнікамі ўсяго расейскага. Із мною не абавязкава згаджацца, але ня можна адмаўляць адкрытай чэснасьці наступнай маёй заявы, што пабудаваная на маім пэрсанальным дасьветчаньні: сярэдні Каўказец працавік зусім не ўважае крыважадным людаедам сярэдняга расейскага работніка ці селяніна. Таксама сярэдні расейскі працавік аж ніяк не ўважае сярэдняга Каўкасца зацятым ненавісьнікам усяго расейскага. Трэба ненавідзець народы СССР, аднолькава якія, каб прыпісваць ім адваротныя якасьці. Трэба быць фанатычным ворагам украінскага народу, каб уважаць яго 50-мільённай таўпой, якая жадае напіцца расейскай крыві. Трэба быць зацятым паклёпнікам на прыбалтыйскія народы, каб прыпісваць ім нязгаслую лютасьць супраць усяго расейскага. І калі мяне запрашаюць «высказацца адкрыта й чэсна», я адказваю вялікім прынцыпам рэвалюцыйных дэмакратаў: ня было, няма і быць ня можа суцэльна паганых або суцэльна добрых народаў. У кажнага народу ёсьць свае плюсы й мінусы.

Вось чаму ня можна не абурацца на наўмыснае дваякае фармуляваньне сп. Керэнскага. Мабыць яму ўсё яшчэ стаяць у вачох змовы й паўстаньні нерасейскіх народаў супраць расейскага народу. Мабыць ягонае думаньне ня можа падняцца вышэй гэтых канцэпцыяў, — ня выпадкова-ж ягоныя «моцныя прамовы» гэтак прызакрасваюцца сьмехатворнымі слаўцамі, як «сэпаратысты», «самасьційнік», «разьдзяляльнік», «нацыянал», «вораг гістарычнай Расеі». Што прымусіла яго даць такое хімэрнае фармуляваньне? Ці не жаданьне адмалявацць нацыянальна-вызвольныя рухі народаў СССР, як рухі супраць расейскага **народу?** Ці не жаданьне кінуць цень рэакцыйнасьці на гэтыя рухі? Ці не жаданьне выкарыстаць навет выпадак Бэрыі для пусканьня спартанскіх стрэлаў у «сэпаратыстых» і «ворагаў гістарычнае Расеі»? Ці часам ня тыя-ж самыя меркаваньні, якія прадыктавалі яму назваць зраднікам Бэрыі якраз Маглакелідзэ ,а ня, скажам, Ёна ці Шмідта, Трушновіча ці Харунжага, Крутыя ці яшчэ каго-небудзь? Ці яны раўня Маглакелідзэ? Гэтыя пытаньні будуць вывучаныя самымі Каўкасцамі, самымі Украінцамі, самымі Беларусамі, самымі расейскімі дэмакратамі, а таму мне няма чаго адказваць на іх.

**10. Аб «вялікай контррэвалюцыі» Керэнскага**

Наш тэарэтык далей абвяшчае, — і гэта ўжо ягоная собская «інфармацыя»(!) — што маючы намер арганізаваць збройнае змаганьне Каўказу супраць маскоўскага ўраду, **Бэрыя плянаваў вялікую контррэвалюцыю...**

Я хацеў-бы быць максімальна спакойным і сказаць спадару Керэнскаму: Ня тою дарогаю йдзеце! Малюючы Бэрыю «сэпаратыстым», і ў ролі такога «вялікага контррэвалюцыянэра», вы самі прапаведваеце ідэялёгію контррэвалюцыі. Больш таго, сваё абвінавачаньне ён мог-бы сьпісаць у больш граматнай і разьвернутай форме з, скажам, «Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)», дзе ўсе «буржуазныя нацыяналістыя» ў кучы абвінавачваюцца ў контррэвалюцыі. Або з пастановы дзяржаўнага камітэту СССР з нагоды ліквідацыі Чэчэна-Інгушыі, Балкарыі, Карачаі, Калмыкіі, Крыму і раду казацкіх станіц. Або з загаду прэзыдыюму вярхоўнага савету РСФСР з 25. 6. 1946 г. аб гэносыдзе. Або із стэнаграмы допыту Ікрамава й Хаджаева Вышынскім. Або з абвінавальнага акту пракуратуры СССР у справе Бухарына — Крэсьцінскага. Або з абвінавальнай прамовы Вышынскага на любым зь вялікіх маскоўскіх працэсаў. Або з абвінавальнага акту ў справе Енукідзэ — Шабалдаева — Мяцелева — Орахелашвілі — Гая. Або, напасьледак, зь якога-небудзь абвінавальнага акту першых-леп-

# Літаратурны Дадатак

Рыгор Крушына

## Лірыка зь вялікага места

### БЕЛАЯ НЯВІННАСЬЦЬ

Была вясна. Былі заручаны.
І каля весьніцаў спатканьні.
І ўсё было вязьмом закручана:
пагляд, усьмешка і прызнаньні.

Язьмін і дзеўчына. Нявінныя...
Салодка вохныя і ў белым.
Навошта гэтыя ўспаміны я
сьпяваю часам агрубелым?

Навошта мучыцца пачуцьцямі
высокіх чыстых парываньняў?
Маю душу закаламуцілі,
зьвягае старасьць на выгнаньні.

Стаптаць прыгожае і добрае,
сябе самога зьнеахвоціць.
Паўзе з закуцьця, ўецца кобраю
нянавісьць, чорнае страхоцьце.

І разьуляе пашчу шырака
і сык чуцён з багновай тхлані:
— Нам не патрэбна Ваша лірыка
пра вёсны, кветкі і каханьне...

Дармо! Сьпяваю і ня слухаю
пустых гамзатых лемантацый.
Хачу, падбіты завірухаю,
часінку радасна сьмяяцца.

Пайду ў мой кветнік, абмінаючы
балота, зарасьлі калючак.
Люблю я сонца, шыр і далечы,
люблю я слова так балюча.

Яго шліфую, перасоўваю
з радка ў радок дзеля парадку.
Ізноў гарыць півонь пунсовая,
цьвітуць настуркі, мак і браткі.

Із гэтых кветак водар выстаяў,
гаючы подых Беларусі.
Яна жыве, мая квяцістая,
у жалю матчыным, у скрусе.

Жаданы час надыйдзе. Зьдзейсьніцца...
Хай не зы мной, а з маім сынам.
Стаяцьме зноў ля родных весьніцаў
былая белая нявіннасьць.

### АПОШНЯЯ РОСТАНЬ

Сумны ўспамінаецца абразок.
Наша ростань. Раніца і вазок.
І суседзі сельскія, і радня,
і мой дзьдзка зь лейцамі ля каня.

Сеча лугавое у вазку
пахне зелянінаю хмызьняку.
І дармо пад ботамі сьнег хрумсьціць,
чорны грак з турботамі ўжо ляціць.

Пачынае пукацца вербалоз.
У далёкім грукаце рух калёс.
Гора палыновае да мяне
новае. вясковае завіне.

Смагай боль выростае. І ў бядзе
у вапошняй ростані аж гудзе.
На хурманцы досьвітак назнарок,
каб упіца ўдосытак, цэдзіць сок.

Перадвесьняй дыхаю, п'ю імжу.
Урачыстасьць ціхая. І — кажу:
— Я вярнуся, родная, ў гэты край
у пару пагодную. Ты чакай...

Дзядзька лейцы кратае — рве каня.
Вее перад хатаю цяплыня.
Там ты з хусткай белаю у руцэ,
ізь сьлязой зьнямелаю на шчацэ.

### ЦІ ПАЧУЕ...

Ці пачуе плач выгнаньніка
там у далечы яна?
Можа боль ад вытню праніка,
ад крутні верацяна
заглушае тое ўтойнае,
што ў грудзёх тугой пяе.
Маладосьць высокамройная
мае клопаты свае...
Я пакінуў хату бедную,
як існую, як жыву.
Празь нягоды разгубіліся
сваякі, сябры, сям'я.
Толькі вершы пульсам біліся,
і ці раз маліўся я:
дзякуй Богу, што занесены
на шчасьлівую зямлю.
Ды адно — ўсім сэрцам песенным
я няшчасную люблю,
тую — сяньня зрабаваную, —
на якой радзіўся, рос,
на якой знайшоў каханую
у маім заплёце кроз...
Цьвёрда, крокамі бадзёрымі
я па вуліцы іду.
Пад мурамі-хмарадзёрамі
валаку сваю бяду.
Набягае смутак кручаны,
курaць пылам камяні.
Прыгадаў сады я Случчыны
і лагоду цішыні...
А ізноў над камяніцамі
неба выдзерты шкумат.
Гэта-ж вочы любай выцьвілі
ў злую восень акурат.
Так душа мая, прарочыца
прышлых дзён, снуецца ў сьне.
Незнаёмы горад мрочыцца
і гамоніць галасьней.
Мне здаецца: гмахі хіляцца,
абдымаюцца яны.
І выходзяцца, як ськівіцы
дзьве даўжэзныя сьцяны.
Абцугі каменнай вуліцы
ціснуць, муляюць мяне.
Сьвет па гэтым не хваліоецца...
І жыцьцё далей імкне.

### НА БРАДВЭЮ

Вячорнае сутоньне расьцьвіло.
У чорнае прадоньне б'е сьвятло:
чырвонае, зялёнае
жоўтае ды белае.
Яно —
чароўнае, шалёнае,
жорсткае, трымцелае.
Адно —
іскрыстая завея ля вітрын.
Маністамі Брадвэю на вятры
калышуцца, ня ўсьцішацца
зыркія вячорныя агні.
Цярушацца, мітусяцца
зоркамі у чорнай глыбіні.

Рыгор Крушына

Міхась Кавыль

## Першая рана

1

Слуцак. Станцыя. Цягнік.
На пэроне людзі.
Моўкнасьць гораду і ніў
крык гудка успудзіў.

Кажушок на галаву
ад ліхтарні вока.
У мора чорнае плыву
ад зямлі далёка.

— Гу-гу-гу!.. Бягу, бягу!..
Рэхча кабыліца.
Разагнаў цягнік дугу
з крыкам у сталіцы.

2

Іду па ходніках. Бяжыць
дзяўчына. Пахне цьветам.
— Прабач, скажы: агульнажытак
тэхнікуму дзе тут?

— Вунь, там, Эльвод... Налева дом...
І вочы апусьціла.
— А лепш цябе я даведу.
І давяла і міла

на ростань ціха па плячу
рукою, як хусьцінкай.
Агеньчык бліснуў у ваччу
блакітнай павуцінкай.

3

На заняткі хадзіў штодня.
Прагуляць — найвялікшы грэх.
Не сабакаў прыехаў ганяць,
падымаць сябе на сьмех.

Выскалякі усюды ёсьць.
Асьмяюць, не заўважыш як.
Нежаданы ты станеш госьць,
брату роднаму не сваяк.

І ў насьценнай газэце — гэрой.
І на чорную дошку — красуй.
І студэнты, пчаліны рой,
не схаваюць пагарду, сум.

4

У Нямігу глянуць зоры,
усьміхнуцца сьцісла,
і лятуць, лятуць праз горад
паглядзецца ў Сьвіслач.

Паглядзяцца, вокам сінім
навакола кінуць
і заўважаць пад вярбінай
хлопца і дзяўчыну.

Каб ня бачыць іх правінаў,
стрымгалоў у воду.
А я йду шчасьлівы зь Нінай
у домік ля Эльводу.

5

За прыгожай, маладою
злыя сочаць вочы.
Шчасьце спарана зь бядою,
неразлучна крочаць.

Сьлёзы смачныя ад сьмеху,
горкія ад гора.
Раз ішла мая уцеха
не зы мной за горад.

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

шых «буржуазных нацыяналістых», — іх заўсёды абвінавачвалі якраз у контррэвалюцыі. Наагул у СССР кажнае змаганьне супраць «маскоўскага ўраду» неадменна кваліфікуецца як контррэвалюцыя, намаганьне рэстаўрацыі капіталізму, навет фашызму.

І калі наш рэвалюцыянэр адтварае пра гэтыя мроеньні з нагоды выдуманага ім намаганьня паставіць Каўказ і Украіну супраць «Масквы», дык мы маем права сказаць: «Дзіўная зьбежнасьць з ноткамі сталінізму!» Гэта-ж зьдзек над ідэялёгіяй нацыянальна-вызвольных рухаў.

Паслухайце, Керэнскі: Ці можна нам, што прабываюць у іншым сьвеце. прадаўжаць каціцца па гэтых брудных рэйках? Ці ня лепш прыдумаць што-небудзь сьвежае?

**11. Што такое сучасная контррэвалюцыя?**

Што-ж такое контррэвалюцыя ў запраўднай **сучаснай** расейскай мове? Што разумеюць пад гэтым тэрмінам цяперашнія ўмеркаваныя сацыял-рэвалюцыянэры, рэвалюцыйныя дэмакраты, нацыянал-дэмакраты і проста дэмакраты ў СССР і паза СССР? Чаму мы абвінавачваем крэмлёўскую алігархію ў контррэвалюцыі, а сярод яе і, звычайна, Бэрыю?

Контррэвалюцыянэрам называецца **сяньня** той, хто паміма канстытуцыйнай дакладнасьці, падобна імпэрыялістаму Булганіну, прадаўжае бубнець аб «савецкім народзе» або «расейскім народзе», бо рэвалюцыя парадзіла і ўзаконіла **народы** Савецкага Саюзу; хто намагаецца пазбавіць народы СССР іхных гістарычных собскіх імён; хто пляную перараджэньне Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік у «гістарычную Расею» бо СССР зьяўляецца САЮЗАМ дзяржаваў; хто намагаецца адабраць ад народаў незапярэчныя рэвалюцыйныя заваяваньні, як прыкладам, тэрытарыяльную абазначанасьць на карце, дзяржаўна-палітычныя ўстановы рэспублік і вобласьцяў і т. д.; хто пляную ліквідацыю саюзных і аўтаномных рэспублік і іхную замену ласкутковымі «расейскімі вобласьцямі»; хто дзеліць насельніцтва СССР на «расейскі **народ** і іншыя **плямёны»**; хто хвальшуе гісторыю народу ў імя якіхсьці рэакцыйна-імпэрыялістычных мэтаў; хто не дапускае да вышэйшых дзяржаўных і іншых пасадаў прадстаўнікоў 45-мільённага музульманскага насельніцтва СССР; хто праводзіць палітыку гэносыдаў і масавых дэпартацыяў малых народаў; хто ігнаруе нацыянальную самабытнасьць народаў і ўводзіць дэспатычныя стандарты жыцьця і спосабы думаньня; хто нацкоўвае адны народы на іншыя; хто з цынічнай бессаромнасьцю блявузгае аб раўнапраўнасьці грамадзян, але выдае пастановы ЦК КПСС аб скарачэньні пэрсаналу дыпляматычнага корпусу СССР прадстаўнікамі толькі некалькіх нацыянальнасьцяў СССР; хто абвяшчае нацыянал-патрыятызм людзей контррэвалюцыяй або вялікай контррэвалюцыяй, бо рэвалюцыя абяцала дыямэтральна процілежныя рэчы.

**13. Іншыя азнакі контррэвалюцыйнасьці**

Бяссумлеўнымі контррэвалюцыянэрамі **нашага часу** зьяўляюцца далей тыя, што рэалізавалі трэйці распадзел Польшчы, вераломна ўдарылі па Фінляндыі і адарвалі ад яе ўсходнія правінцыі, акупавалі дзяржавы Прыбалтыкі, бо рэвалюцыя дала гэтым краінам нацыянальную й дзяржаўную незалежнасьць; хто праводзіць палітыку аднaчаснай і доўгачаснай вайсковых акупацыяў дзяржаў Эўропы й Азіі, бо рэвалюцыя ўрачыста абвесьціла адмову ад такой палітыкі, заклейміўшы царскую Расею «апораю эўрапэйскай і азіяцкай імпэрыялістычнай рэакцыі»; хто душыць нацыянальна-вызвольныя паўстаньні нямецкага народу штыхамі і танкамі, бо рэвалюцыя абвесьціла сьвятым усякае змаганьне вызвольнае; хто грабіць акупаваныя дзяржавы, бо рэвалюцыя ўрачыста адмовілася ад кантрыбуцыяў і рэпарацыяў; хто ў 1944-45 г. г. адкрыта высунуў лёзунг «зьбіраньня ісконна-рускіх і дрэўня-славянскіх земляў», абвесьціўшы такімі навет Бэрлін і Брандэнбурскую правінцыю (глядзі, прыкладам, «Известия», 23. 2. 1945).

Контррэвалюцыянэр **сяньня,** далей, той, хто пад выглядам будаўніцтва сацыялізму прывёў дзяржаву ў балота страхотлівых дзяржаўна-манапалістычных канцэнтрацыяў і цэнтралізацыяў, насадзіў аднапартыйную тыранію, зьдзейсьніў варварскую ліквідацыю г. зв. «кулацтва» загнаў сялян у калгасы, зарганізаваў канцэнтрацыйныя лягеры, практыкуе прымусовыя дзяржаўныя загатоўкі, хто стварыў угрум-бурчэеўскі «сацыялізм» із злыднямі, голадам, бяспраўнасьцю, безабароннасьцю, паліцыйнай сваволяй, хто насаджвае рэакцыйную жданаўшчыну й русацтва, бо звонкая фразэалёгія часоў кастрычніцкай рэвалюцыі абяцала дыямэтральна супрацьлежныя рэчы.

Напасьледак, контррэвалюцыйнымі імпэрыялістымі зьяўляюцца тыя, што ўкладаюць пот і сьлёзы народных масаў у гігантычную ваенную машыну, што мае на мэце ахарону ўжо захопленых чужых земляў і далейшае расшырэньне імпэрыі пры дапамозе вадароднай бомбы, бактэрыялягічных бацылаў, танкаў, штыхоў і правакатараў, бо-ж каркаломныя лёзунгі рэвалюцыі абяцалі мір, спакой, брацтва й сужыцьцё.

**13. Контррэвалюцыянэры асаблівага гатунку**

Як бачыце, між **сучасным** словам «контррэвалюцыя» і зьместам часоў Керэнскага існуе вялізарная пропасьць. Чым хутчэй мы гэта зразумеем, тым лепш для нас усіх, бо жыцьцё не стаіць на месцы, яно ўносіць жыцьцёвыя карэктывы, зь якімі трэба лічыцца. Асабліва трэба лічыцца з тым, што сяньня на нашых вачох разьвіваецца контррэвалюцыя асаблівага і даволі подлага гатунку. Я маю наўвеце кірунак прадстаўнікоў іншых народаў, напрыклад цікаваньне супраць г. зв. «галічан-самасьційнікаў», якое становіцца палітыкай у некаторых ня ў меру прэтэнсійных экспэртаў у расейскіх справах. Хто і зь якой мэтаю творыць гэтае цемрашалства?!

Я думаю, што трэба выкрыць вось гэтыя маральна-палітычныя нулі. Мы ня можам аставацца абыякавымі, калі палітыкуючыя хуліганы выліваюць бочку няпрыстойнага бруду на эмігрантаў із Заходніх Беларусі і Украіны. Мы ня можам быць спакойнымі, калі страшныя авантурыстыя ўбіваюць клін разыходжаньняў між усходнімі й заходнімі Украінцамі, бо мы — рэвалюцыянэры, а прагрэсыўныя рэвалюцыі нашага часу вымагаюць адваротнага, замацаваньня братніх сувязяў між народамі. Рэвалюцыйныя дэмакраты ўсіх нацыянальнасьцяў, і ў першую чаргу — расейскія рэвалюцыйныя дэмакраты, будуць выкрываць, як правакатараў і агентаў савецкага імпэрыялізму тых, хто прапагуе даўно засуджаны лёзунг старых захопнікаў і панявольнікаў: **дзялі і пануй!**

Разам з тым нельга ня дзівіцца з маўчаньня некаторых старых і заслужаных расейскіх дэмакратаў у такіх неадпаведных для маўчаньня пытаньнях.

Ніжэй мы пастараемся паказаць, да чаго ў запраўднасьці йшоў Бэрыя, а тут пакуль што адцемім, што ён быў усяго-наўсяго толькі квісьлінгам Каўказу, у роўнай меры ворагам усіх народаў СССР. Каўказ вельмі шмат перажыў за апошняе стагодзьдзе, каб не будаваць ілюзіяў што да вызвольных здольнасьцяў розных Паськевічаў, Цыцыянавых, Ермолавых, Раманавых, Керэнскіх, Ленінаў, Сталінаў, Молатаваў, Кіраваў, Ежоваў, Ягодаў, Сераваў і Бэрыяў. Але Каўкасцы ў сярэдзіне і вонках СССР маральна будуць мець рацыю, калі ў новым выбрыку Керэнскага пабачаць новае грубое намаганьне рэстаўрацыі «парадаў» манархічнага гісторыка Чудзінава царом, што зводзяцца да простай формулы: **Каўказ заўсёды быў, ёсьць і будзе ворагам белакаменнай Русі, а таму трэба яго ўціхамірыць...**

**14. Мы йшчэ не забылі й аб гэтым**

Звычайна, Керэнскаму далёка да завершанасьці ўціхаміраваць. Звычайна ён проста не гаворыць, што Каўказ трэба ўціхамірыць, пакараць. Звычайна, ён гаворыць «толькі» аб тым, што Каўказец Бэрыя намагаўся арганізаваць збройнае паўстаньне Каўказу супраць «маскоўскага ўраду». Але мы яшчэ не забылі, што такое-ж самае абвінавачаньне Крэмль высунуў у 1937 годзе супраць групы Енукідзэ — Шабалдаева. Апрача гэтага, Каўказ ужо даўно ведае, што такое Керэнскі. Ён ведае, што гэты чалавек, калі стаяў на чале ўраду, ня ўдарыў пальцам аб палец для арганізаваньня ўзапраўды дэмакратычных нацыянальна-вызвольных рухаў, і гэта мела згубныя вынікі. Цяпер мы ведаем і аб ягоных гэройскіх учынках, стараньнях і навет прысязе пакончыць з Каўкасцамі й іншымі «сэпаратыстымі». Але мы яму радзім мець на ўвазе, што існуюць сьвяжэйшыя расейскія людзі, якія думаюць інакш.

А іншыя ягоныя «справы»? Прыпомніце хаця-б ягоную радыяпрамову некалькі год назад: «расейскі народ і іншыя племена» — вось якою моваю ён гаварыў. Гэта — мова контррэвалюцыянэраў і імпэрыялістых!

Прыпомніце ягоныя бясслаўныя гастролі ў справе задзіночаньня эміграцыі, адзіным вынікам якіх была поўная дэзарыентацыя, сваркі між рознымі нацыянальнасьцямі. Пад яго мудрым кіраўніцтвам нарадзілася гораведамае й штучнае тварэньне штучных «агульнарасейскіх партыяў» паводля выпадковых азнакаў і з выпадковых людзей. Хіба рэвалюцыянэры мусяць так дзеіць? Чаго мы можам чакаць ад чалавека, які ўжо цяпер ставіць сабе за мэту не задзіночаньне й дапамогу прадстаўнікам малых і слабых народаў, не наданьне ім свабоды слова й паглядаў, а іхную дэзінтэграцыю, ператварэньне іх у апэндыксы якіхсьці «агульнарасейскіх партыяў», якія існуюць у ўяве розных выскачкаў. Чым у сутнасьці адрозьніваецца гэтая палітыка ад палітыкі сучаснага савецкага камунізму ў нацыянальным пытаньні? Дык што-ж мы зьбіраемся стварыць: новую КПСС, якая нікому не дае права тварыць **нацыянальных** партыяў, няхай хоць і камуністычных? Чым-жа гэта ня контррэвалюцыя? І які-ж якраз расейскі народ упаўнамочыў яго дзеіць падобным чынам? Ці ён забыўся, як аднёсься да яго гэты народ у 1917 годзе? Але мы яшчэ не забыліся аб гэтым.

(Далей будзе)

# Шляхі беларускіх дзяцей у вапошнюю вайну

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

### ЛЯГЕР КАПЭН

Мы ведалі, што транспарт зь дзяцьмі накіроўваецца ў Капэн каля Дэсаў, але як выглядае тамашні лягер і дзе ён ляжыць — ніхто не дадумоўваўся. Ужо было зусім цёмна, калі цягнік спыніўся ў нейкім лесе. Прынамсі адно цешыла, што знаходзімся каля дзесяці кілёмэтраў за горадам. Пачалі выладоўвацца. Групы памяшаліся. Ды зрэштай як тут захоўваць нейкі парадак з тысячнай масай змучаных і галодных дзяцей поцемку ў лесе. На шчасьце за мэтраў трыста быў ужо лягер. Атрымаўшы вячэру, прыйшлося разьмяркоўваць дзяцей па бараках. Колькі ні пераконвалася, што гэта разьмеркаваньне толькі на адну ноч, што заўтра кажны можа перайсьці ў барак, які ён хоча, усядно той не хацеў пакінуць сястру, іншы сяброў з аднае вёскі й г. д. Толькі познай ночай усё супакоілася.

Назаўтрае першым чынам пайшлі ў вагляд лягеру. Аказалася, што мы занялі толькі малую частку яго. Асноўная-ж маса баракаў пустуе. У лягеры жыве некалькі дзесяткаў Палякаў, Французаў, Бэльгійцаў і Расейцаў — тэхнічны пэрсанал. Лягер знаходзіцца ў лесе й апрача гэтага над баракамі й вуліцамі завешаны сеткі для маскаваньня. Такім чынам, гледзячы зьверху, не заўважаецца розьніцы між навакольным лесам і самім лягерам. На першы пагляд — больш ідэальнае месца для дзяцей цяжка знайсьці. Але хутка даведваемся, што дзесьці недалёка ў лесе знаходзяцца падземныя фабрыкі амуніцыі і, што яшчэ горш, ужо аднаго разу самалёты круціліся над лесам і мясцамі кідалі бомбы. Ува ўсякім выпадку тут здавалася шмат бесьпячней, чымся ў якім-небудзь прамысловым горадзе.

Пачалі мы знаёміцца з новымі ўмовамі. Першы сутык з адміністрацыяй лягеру вывязаўся ў справе харчаваньня. Мы ведалі нямецкія нормы для дзяцей. Тымчасам аказалася, што на іх месца выдаецца толькі зупа з гнілой бручкі ды малы кавалак хлеба. Ясна, што ў гэткіх умовах цяжка было намаўляць галодных дзяцей на нейкі штрайк, але на нарадзе кіраўнікоў было пастаноўлена, што ў выпадку, калі харчаваньне ня зьменіцца, мы самі робім гэтакі штрайк. Адміністрацыя вымаўлялася непадрыхтаванасьцяй да такое колькасьці дзяцей і абяцала за колькі дзён справу палепшыць.

Першыя дні аказаліся найбольш цяжкімі. Ніводнае інструкцыі, ніводнага наставленьня: маеш сто дзяцей і апякуйся імі як знаеш. Праўда, Галоўны Кіраўнік СБМ на Нямеччыну быў з намі, але-ж што ён мог парадзіць там, дзе справу мелася не зь юнакамі, а зь дзяцьмі, і то ў дабавак зь дзяцьмі галоднымі, босымі, у лахмоцьцях. Ім трэба было перадусім зарганізаваць усё неабходнае да фізычнага існаваньня, а пасьля думаць аб нейкім узгадоўваньні, шкаленьні. Аднак зь першага моманту, усе мы пераканаліся, што не чакаючы на палепшаньне матарыяльнага боку, трэба прыдумоўваць для дзяцей нейкія заняткі, ці гульні, бо інакш, хапала пакінуць іх на колькі гадзінаў у бараку, як адразу пачынаўся агульны лямант. Уцягнуўшыся-ж, хоць спачатку й неахвотна, у нейкую гульню, яны хутка забываліся аб сваёй долі й нярэдка чуўся шчыры сьмех.

Якраз у гэтых днях прыходзілася наражацца на розныя прыкрасьці, лаянку й насьмешкі з боку пару дзесяткаў чужынцаў, што жылі ў лягеры й у вачох якіх мы былі ворагамі гэтых дзяцей, іхнымі прыганятымі й адказнымі за іхную эвакуацыю. Мы ніколі ня думалі, што ў будучыні з гэтымі чужынцамі навяжуцца такія сяброўскія адносіны. Але гэта надыйшло ўжо пазьней, калі яны пабачылі на практыцы, што мы прадстаўляем для гэтых дзяцей і як імі займаемся. І тады ўжо ў падобных выпадках якраз гэтыя дзеці былі нашымі абароньнікамі.

**А. Галубіцкі**

**(Працяг будзе)**

# УВАГА! УВАГА!

**Выйшла з друку й прадаецца кніга выключнай ідэйнай і мастацкай вартасьці**




**Гэта ёсьць вялікі зборнік выбранай паэзіі найвялікшага нашага нацыянальнага паэты й прарока беларускага адраджэньня Янкі Купалы. Зборнік папярэджаны вялікім навукова-крытычным артыкулам др. Ст. Станкевіча аб жыцьці й творчасьці Янкі Купалы, зьмяшчае ў сабе 9 фотоздымкаў як самога паэты з розных пэрыядаў ягонага жыцьця, гэтак і ілюстрацыяў, якія датычаць творчасьці й жыцьця Янкі Купалы. Кніга мае разьмер вялікае васьмёркі й абыймае 564 бачыны друку. Прыгожую каляровую вокладку кнігі (у чатырох колерах) выканаў беларускі мастак Міхась Наўмовіч.**

**ЦАНА КНІГІ:**

**1. На добрай паперы ў мяккай папяровай вокладцы — 7 амэр. даляраў за 1 эгзэмпляр. З гледзішча на вялікі разьмер кнігі, у гэткім стане яна будзе нятрывалкай. Таму тыя, што яе купяць у такой вокладцы, павінны самі даць яе пераплесьці ў цьвёрдую вокладку.**

**2. На добрай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы з пазалочанымі надпісамі на ёй і з рухомай папяровай вокладкай зьверху — 9 амэрыканскіх даляраў.**

**3. На люксусовай бліскучай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы з пазалочанымі надпісамі на ёй і з рухомай папяровай вокладкай зьверху — 11 амэрыканскіх даляраў.**

**У краінах, за выключэньнем ЗША і Канады, раўнавартасьць вышэйшай даляровай сумы ў мясцовай валюце.**

**Кнігу можна выпісваць непасрэдна з Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне, а так-жа з Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны» паза Нямеччынай і зь беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у краінах расьсяленьня Беларусаў.**

**Выбар паэзіі Янкі Купалы «СПАДЧЫНА» — гэта наш нацыянальны скарб на эміграцыі, гэта найвялікшая нашая пацеха на чужыне, гэта найбольш годная нашая нацыянальная рэпрэзэнтацыя перад чужынцамі. Не павінна быць аніводнага Беларуса, які-б ня быў собсьнікам гэтае кнігі!**

# Першая рана

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Хай пярун бы мяне ўдарыў,
галаву расквасіў:
вёў пад руку маю мару
камсамолец Вася...

6

Перакрэсьліў загалоўкі
новае вязанкі,
у трамвай, на Камароўку,
у лес каля Сьляпянкі.

Там зялёныя узьвеі
б'юць паклон Радзіме;
там чакаюць два Сяргеі,
адзін Уладзімер...

**Там суцішнае ёсьць месца**
**каля стромкай хвоі.**
**Слухаць будзе толькі месяц,**
**як ракой жывою**

рыфмаў стройныя узьвівы
зазьвіняць па лесе.
Павядзе нас па абрывах
маладая песьня.

А нязломная шыпшына
воплескамі лісьцяў
супакоіць — не загінем,
выйдзем, знойдзем выйсьце.

7

У тую ноч не адзін я прыйшоў.
Мо на шчасьце, а мо на бяду
я прывёў з сабой таварышоў,
недазволеных дум чараду.

Не давалі заснуць мне сябры,
усё пыталі, чаму Беларусь
пяцікутную зоркай гарыць,
не запаліць сваю зару.

Адказаць я ня мог ім тады
і за мною хадзілі яны.
Няутомных сяброў сьляды
страціў я на дарогах вайны.

8

Трыццаць трэйці галодны год.
Трыста грамаў хлеба — паёк.
Падцягнула і мне жывот.
Торбы накрыж і ў рукі кіёк?

Дзе дзяваліся ўзьнёсласьць, імпэт?
Растапырыўшы ногі, як рак,
ледзь ідзе да харчэўні студэнт,
ня студэнт — запытальны знак.

9

Не прасіў дапамогі з дому,
ведаў — сёстры і маці ў бядзе.
Самі чорствым давяцца комам,
рады шчаўніку ды лебядзе.

Сашчаперылі ў роспачы рукі
і ня ведаюць, жыць, ці ня жыць;
употай ловяць таемныя гукі
аб ратунку з заходняй мяжы.

10

Я ня бачыўся доўга зь Нінай.
Да мяне завітала яна...
Працягнула галінку шыпшыны
і лагодна сказала — на!..

Каля сэрца насі заўсёды,
гэта твой і мэдалік, і крыж.
Ты радзіўся у час непагоды,
непагоды баісься ці-ж?

Не давай заскарузець слову.
Слова праўды — ражанец і меч.
Словам можна здымаць галовы,
але сэрцы ты ім не калеч.

Шмат цябе навучаць ня стану,
Прад табою шляхі і шляхі.
Беларусі крывавую рану
не загоіць прыблуда ліхі.

**І пайшла, як прыйшла, ня ў дзьверы,**
**не праз комін, дзе чад і дым...**
**Новым вершам на белай паперы**
**пачарнелі Музы сьляды.**

11

З тэй пары сінязорныя вочы
павялі мяне цяжкай дарогай.
З камсамольскаю зграяю крочыць
я ня мог, не патрапіў у ногу.

Надрываліся выпаўзьні — левай!
Я наўмысьне, наўсуперак — правай.
У шэрым гмаху высочныя гневу
завялі на мяне справу...

12

Чалавек чалавеку зьвер.
Чалавек чалавеку брат.
Якой хочаш меркай зьмер,
але гад застанецца гад.

Прайдзісьветы усюды ёсьць, —
беларускі народ не сьвяты, —
і Цыган Беларусу госьць...
Ці ня шмат у нас дабраты?

13

Зь ім я жыў пад аднэю стольлю.
Мы дзяліліся хлебам і сольлю.

Нас вязала агульная мэта:
як і я, ён цаляў у паэты.

Надзяваў ён кашулю маю
і пяяў — «Я ля раю стаю...

Я напяльваў яго піджак,
падпяваў — «Падарожжа пятак!..»

Парным летам, суворай зімой
быў ён лепшы таварыш мой.

Эх, таварыш, таварыш Васіль,
ты ў запазусе камень насіў.

14

Я ні слова пры спатканьні,
а яна хоць бы паўслова.
Неяк сумна ў вочы глянем,
ды апусьціцца галовы.

Так і пойдзем, як чужыя,
незнаёмыя ніколі.
Толькі сэрца ціха ные,
толькі ў сэрца штосьці коле.

І ня сьпіцца: думы, мары.
Што цяпер ты робіш, дзе ты?
Сэрца слухаю удары,
успамінамі сагрэты.

15

А сябра мой, таварыш першы, —
такім цяпер не назаву, —
закінуў лекцыі і вершы,
пісаў даносы ў ГПУ.

Даруй яму, Божа, правіны:
кахалі мы адну дзяўчыну.

16

Мы спаткаліся зь ёй нечакана,
маладосьць ня умее чакаць,
гэтак толькі моцна закаханых
зводзіць лёгкая лёсу рука.

Да паўночы блукаў я ля дому, —
домік Ніны, забыты даўно! — —
Нібы хтосьці яе павядоміў,
паглядзела Ніна ў вакно.

Доўга мы па Нямізе гулялі,
сагравалі нас ветры, мароз.
Як вастрогу праходзілі каля,
ня стрымала Ніна сьлёз.

Не даходзіў я надта прычыны,
думаў: сьлезы — прываба жанчыны...

Пры растаньні ізноў залілася
і сказала: «Сьцеражыся, Вася...»

Эпілёг

У прасторнай сьветлай залі
джаз грымеў. Танцавалі вальс.
Слова мы зь ёй не сказалі,
сэрцы шапталі за нас.

Трубы, іскрыпкі зьвінелі,
вандраваў я не на зямлі...
І прыйшлі яны ў шынэлях,
з ГПУ каты прыйшлі.

Лопнулі мары, як струны,
меч каральны шчасьце расьцяў.
Першы ў жыцьці пацалунак,
першая рана жыцьця...

**1955 г.**
**Заўвага:**
Эльвод — назоў электрастанцыі ў Менску.

**Міхась Кавыль**

### ПАПРАЎКА

У рэцэнзіі на брашуру «Камуністычны захоп і акупацыя Беларусі», зьмешчанай у № 21 (251) нашай газэты, з-за тэхнічнага недагляду ўкралася колькі паважных памылак.

Гэтак, у трэйцяй шпальце, заміж «Бэрлінская канфэрэнцыя 1952 году», трэба чытаць: «Бэрлінская канфэрэнцыя 1925 году».

У чацьвертай шпальце, заміж «II-і Ўсебеларускі Кангрэс у тагачасных умовах ня мог пацьвердзіць незалежнасьці Беларусі ад СССР», трэба чытаць: «II-і Ўсебеларускі Кангрэс у тагачасных умовах ня мог пацьвердзіць незалежнасьці Беларусі, а толькі аддзяленьне яе ад СССР».

*

Рэдакцыя просіць Пав. Аўтара і Чытачоў выбачыць ёй гэты недагляд.

**Рэдакцыя**



## Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
Vasil Šcećka, 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič, 79 A.,** Hudson Road, Spotswood — Melbourne, Vict., Australia.
Mr. M. Palashuk, 17 Sparks Ave, Fairfield, Vict., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
Prince Arthur Lunch, 73, Prince Arthur St. E. Montreal, Q., Canada.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у пасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**